*Беларусь-- гэта сьвятое!*



# ЗАКЛІК

№3 (23)
**Май**
2007 года.

**Грамадзскі інфармацыйна-аналітычны веснік г.Касцюковічы**

## Сустрэчы.
### Выканане наказаў выбаршчыкаў.

16 мая 2007 года Касцюковіцкі раён наведаў дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь ад нашага раёна В.Р. Сімірскі. Знаходзячыся ў Касцюковічах, ён наведаў хлебазавод і раён газазабяспячэння. На сустрэчах з калектывамі працоўных хлебазавода і раёна газазабяспячэння абмяркоўваліся пытанні харчовай бяспекі нашай дзяржавы а таксама Праект закона "Аб дзяржаўных сацыяльных льготах, правах і гарантыях для аддельных катэгорый грамадзян". В.Р. Сімірскі ў сваіх прамовах схіляўся на карысць Праекта гэтага закона. Ён падкрэсліваў, што ў гэтым законапраекце размова не ідзе аб поўнай адмене ільгот, а аб іх адраснным пераразмеркаванні на карысць найбольш бедных людзей. Дэпутат адказаў на іншыя пытанні, што цікавілі людзей, якія былі на сустрэчы з ім.

## ТОЛЬКІ ПАСЬЛЯ ВЫЗВАЛЕННЯ ЎСІХ ЗЬНЯВОЛЕНЫХ БУДУЦЬ МАГЧЫМЫЯ ПЕРАМОВЫ

**Амбасадар ЗША Карэн Сьцюарт выказала надзею, што ў хуткім часе могуць выйсьці на волю палітвязьні, у тым ліку лідэр Маладога Фронту Зьміцер Дашкевіч.**
Пасьля таго, як будуць вызваленыя ўсе палітзьняволеныя, будуць магчымыя перамовы зь беларускімі ўладамі аб прывядзеньні беларускага заканадаўства ў адпаведнасьць нормам міжнароднага права, зазначыла сп-ня Сьцюарт. Кіраўнік місіі АБСЭ ў Менску Оке Пэтэрсан заявіў, што артыкул 193 Крымінальнага кодэксу выкарыстоўваецца ўладамі як рычаг ціску выбарачна супраць асобных грамадзянаў.

*Не разбіць,*
*не спыніць,*
*не стрымаць...*

*Беларусы і палякі, як вядома, праз стагоддзі пранеслі свае нацыянальныя колеры — белы і чырвоны. Гэтыя колеры адлюстравалі і агульнасць нашай гісторыі, Белы — сімвал веры, незалежнасці, сьвятла. Чырвоны — крывавых бітваў, людскіх пакутаў. Усё гэта выпала на долю як беларускага, так і польскага народаў. Нездарма шмат якія з польскіх мястэчак (напрыклад, Пулавы ў Люблінскім ваяводстве) маюць на сваім гербе старадаўнюю крывіцкую Пагоню, якой прысьвяціў адзін са сваіх найвыбітнейшых вершаў наш беларускі класік Максім БагдановІч.*

*Нас лучыць яшчэ адзін сімвал — гімн "Багародзіца", які нашы дзяржавы мелі ў XIII—XIV стагоддзях. Яго сьпявалі ваяры перад Грунвальдскай бітвай. І зараз, у XXI стагоддзі, ен сьпяваецца беларускімі і польскімі касцельнымі харамі.*

*Вытокі*

*З прыняцьцем хрысціянства Польшча і Беларусь (тады — Вялікае княства Літоўскае) выйшлі на міжнародную арэну і былі прызнаныя за цывілізаваныя краіны. Хрысьціянскія запаведзі становяць тыя першыя законы, па якіх жылі нашыя продкі. Яны і кладуцца ў аснову машых статутаў і гістарычных канстытуцый.*
*Лучыць нас і спадчына, што пакінулі на нашых землях святы Андрэй Баболя, які аддана працаваў на Палессі і панёс там сваю пакутніцкую смерць, блаславёная асьветніца Уршуля Ледухоўская, святы Язафат Кунцэвіч, замардаваны ў Віцебску.*

*У музеі кнігадрукаваньня ў Полацку кідаецца ў вочы прыпіска на кожным стэндзе: копія, копія, копія... Адзе арыгіналы? — У Маскве, у Кіеве... Згубілася наша кніжная спадчына. Гэта сведчыць пра беларусаў як пра не самых дбайных нашчадкаў. Зразумела, можна апраўдвацца войнамі, падзеламі, наездамі. Але як мы зможам патлумачыць нашым дзецям разарваныя ў , мірны. час духоўныя сувязі з найбліжэйшымі суседзямі, у якіх ёсьць чаму павучыцца, што пераняць у сэнсе зберажэння нацыянальных рарытэтаў.*

# Из истории моторов.

До начала Второй мировой войны компании "Citroen" и "Opel" стали первыми и единственными, в производственной программе которых появились и доминировали автомобили с несущим кузовом. "Opel" выпускал сразу три модели: "Kadett", "Olympia" и "Kapitan". Самая первая модель Опель Кадет - появилась на свет в 1938 году. Это была самая младшая модель модельного ряда фирмы тех лет. Чисто внешне - это была уменьшенная копия модели Олимпия, но сделанная с учетом всех доработок и исправлений в конструкции несущего кузова. Кадет оснащался точно такими же двигателями - 4 цилиндра, 1.3 литра, 24 л.с., такой же подвеской, таким же задним мостом, таким же рулевым управлением типа "червяк-сектор", что и Олимпия. Внешне обе машины очень напоминали друг друга. Они имели фары, объединенные на американский манер с капотом и облицовкой радиатора.Силовые схемы кузовов также были схожи. Первый Кадет развивал скорость до 98 км/ч. Комплектация открывавшего модельный ряд "Kadett" была очень простенькой. Можно даже сказать спартанской. Даже бампера полагались только за дополнительную плату. Приходилось доплачивать и за стеклоочиститель с пассажирской стороны. Судьба самого дешевого (автомобиль стоил всего около 2000 марок) "Opel" с несущим кузовом сложилась драматично. После войны "Kadett" начали выпускать под маркой "Москвич-400" на Московском заводе малолитражных автомобилей (МЗМА). По мере развития производства черты Кадета в облике Москвича постепенно изменялись. Модель 401 была уже менее похожа, а 402 только отдаленно напоминала немецкую машину. В 60-е годы Опель решил вернутся к названию довоенной модели Кадет. Новый Опель Кадет, получивший индекс "А", был выпущен в 1962 году и пришел на смену модели Опель 1200. Для новой модели предлагалось три типа кузовов - седан, купе и универсал. Все машины оснащались одним из четырехцилиндровых моторов объемом 1 литр (993 куб.см.) мощностью 40 и 48 л.с., разгонявшим машину, весившую почти 700 кг., до 120 и 130 км/час соответственно. Предлагалось по тем временам только два варианта комплектации, которые отличались в основном двигателями: 1.0 и 1.0S, агрегатированные с ручной, 4-хступенчатой коробкой передач. Всего было выпущено 649512 аппаратов этой модели. Эта модель Опеля Кадет стала первым переднеприводным Кадетом с поперечно расположенным силовым агрегатом. Предлагались модификации с кузовами хэтчбэк 3 и 5-ти дверные и универсал. Машины занимали позицию на рынке автомобилей Гольф-класса. Они были просты в эксплуатации, надежны и дешевы (для европейского покупателя), что позволило им успешно конкурировать с Фольксваген Гольф 1. Кадетт Е имел более просторный и комфортабельный салон, улучшенную систему пассивной безопасности с зонами деформации передней и задней части кузова, на некоторые машины устанавливались усилители руля, люки, электростеклоподъемники и магнитолы. Выпускались модели с кузовами хэтчбэк 3 и 5 дверей, караван (универсал), 4-х дверный седан, а позже кабриолет, который оставался на конвеере до 1993г, хотя в 1991г на смену Кадетт пришла Астра. На Кадет Е устанавливалась большая гамма двигателей от самого слабого карбюраторного 1.2 с нижнерасположенным распредвалом до 2.0 л. с распределенным впрыском топлива. Между ними стоят моторы 13N 60 л.с., 13S 75 л.с., C14NZ, C16NZ, C18NZ, 1.6 л. дизель. Самые мощные моторы 1.8л. и 2.0л. ставились на спортивные модели с шильдиками GSI и GTE, эти машины также комплектовались более жесткими пружинами подвески и увеличенным стабилизатором поперечной устойчивости. Выпускались юбилейные серии, приуроченные к выпуску 2000000 автомобиля с велюровыми салонами и формованными обивками дверей. После снятия модели с конвеера в Рюссельсхайме, лицензию на их производство приобрела фирма ДЭУ и выпускала их до 1995г. под маркой ДЭУ Рэйсер с моторами 1.5л., а после рестайлинга модель получила имя ДЭУ Нексия, которая выпускается до сих пор в Узбекистане, на заводе "Уз-Деу", правда только одной модификации - седан.

По материалам Интернета.

# Акно ў прыроду

Яшчэ задоўга да таго, як прыйшоў у " Беларускую лясную газету", лічы , змалку, зайздросціў я леснікам: гэта ж такі цуд – працаваць на свежым паветры, у штодзённым судакрананні з прыродай! Зайздросціў і пісьменнікам, у біяграфію якіх упляліся лясныя крапіны: Івану Шамякіну, які потым ужо, даведаўшыся, дзе я працую, з гонарам казаў мне, што ягоны бацька быў таксама лесніком; Міколу Кусянкову, які закончыў Буда-Кашалёўскі лясны тэхнікум і напісаў трылогію пра лесаводаў. Хіба што не зайздросціў літаратарам, якія падчас сталінскага тэрору правялі свае лепшыя гады на лесапавалах Сібіры і Поўначы.

Каго толькі не натхняў лес, у кім толькі не абуджаў прагу да творчасці. А калі ў цябе яшчэ і праца звязана з ляснымі справамі... Зрэшты, калі ёсць тая божая іскрынка, што завецца талентам, то рукі самі пацягнуцца да пяра, каб занатаваць убачаннае і перажытае на паперы.

З Міхаілам Іванавічам Шавандай мяне пазнаёміў тадышні галоўны рэдактар "ЛІМа" Алесь Пісьмянкоў.

Пры знаёмстве з М.Шавандай мяне ўразіла, з якім замілаваннем ён расказваў пра лес, кожнае дрэва ў ім і кожную птушачку, пра сваіх паплечнікаў-лесаводаў. Многія з тых аповядаў я напаткаў потым у шавандаўскіх мініяцюрах, калі рыхтаваў да друку рукапісы яго кніг "У кожнага дрэва свой голас" і "Крыштальны звон бяроз", якія ў адным і тым жа 1996 годзе запар выдаў прыватны выдавец Міхась Расолька, былы галоўны рэдактар мінскай гарадской газеты "Добры вечар". Да гэтых дзвюх кніг касцюковіцкі ляснічы ўжо меў адну –"Карнеева крынічка". А перад усім быў не адзін тузін публікацый у мясцовым і рэспубліканскім друку.

Пазней, ужо працуючы ў "Беларускай лясной газеце", я блізка пазнаёміўся з многімі айчыннымі лесаводамі. Заўважыў, што за рэдкім выключэннем усе яны за словам у кішэню не палезуць. А вось пакласці колькі слоў на паперу, каб сваё, асабістае зрабіць набыткам і для нашчадкаў, заўждыаднекваліся, як іншы раз і не прасіў. М.Шаванду ўзяцца за пяро не ўгаворвалі; ён зрабіў гэта па ўласнай волі. Пэўна, усё ж засела недзе ў душы тая божая іскрынка, якая не-не ды і ўспыхне, каб асвятліць адкрыццём лесавода-практыка, што пратаптаў не адну сотню вёрст па лесе, і нас, чытачоў. Часам нават здзіўляюся: наколькі ж трэба быць апантаным чалавекам, каб пасля невыноснай дзённай стомы – і ў спёку, і ў дождж, і ў завіруху – сесці позна вечарам, калі ўсе хатнія спяць, за стол і застацца сам-насам перад чыстым аркушам паперы.

Ведаю, што былі (ды і ёсць) у Міхаіла Іванавіча і зласліўцы: маўляў, бач ты, у пісьменнікі шчэміцца – лесам лепш бы займаўся. А ён і займаўся – і прытым нашмат лепш, чым многія "непісьменнікі". У тыя ж знакамітыя касцюковіцкія дубровы, клапатліва выпешчаныя тамтэйшым галоўным ляснічым, яшчэ і сёння возяць шматлікіх спецыялістаў-экскурсантаў.

Міхась Шаванда – не прафесійны літаратар, але для колькіх юнакоў і дзяўчат яго літаратурныя творы сталі першым знаёмствам з рамантычнай, няхай сабе і нялёгкай прафесіяй лесавода. Мініяцюры і абразкі ўраджэнца мястэчка Мілаславічы Клімавіцкага раёна, навакольным лясам якога ён прысвяціў сваё жыццё, -- гэта акно ў прыроду, дзе заўсёды сонечна. Святлыня гэтая – ад родных краявідаў, ад сакавітага матчынага слова. Думаецца, тое ж адчуюць чытачы і прачытаўшы ягоную новую кнігу – "Леснікі".

Віктар Ціханаў.

З успамінаў ляснічага

# След у памяці

З пасады лесніка Шкрадкоў звольніўся ў 80 гадоў і пражыў усе 95. Многа яркіх успамінаў засталося ў памяці пра гэтага самабытнага чалавека.

Неяк вясной я наведаўся да Антона Мікітавіча. Жонка сказала, што свой працоўны дзень Антон пачынае з праўлення калгаса. Там мы і сустрэліся. “Зараз няма ўжо праблемы,-- заўважыў ляснік на мой нечаканы візіт,-- каб дзень і ноч ахоўваць лес ад самавольных высечак. Прапаноўваем людзям да пачатку сельгасработ нарыхтоўваць дровы”.

Старшыня калгаса, які ўключыўся ў размову, пацвердзіў, што пасадка маладняку праведзена згодна з планам, дапамаглі тэхнікай і людзьмі.

Шкрадкоў пайшоў на адстаючы ўчастак з пасады старшыні выканкама Сялецкаўскага сельсавета, каб паправіць становішча.

У чым сакрэт такога ўзаімаразумення? І я выбраў момант спытаць самога лесніка. “Людзі бачаць, што я жыву сваёй працай,-- адказаў Антон Мікітавіч. – Маю добры сад, пчолапасеку, трымаю карову, каня. У касе і сякеры маладому не уступлю. Ды і сям’я працалюбівая”.

“Як жа, у такім выпадку, з усім управіцца?”—наспела пытанне.

“Падпарадкоўваюся інтэрэсам лесу,-- тлумачыць Шкрадкоў. – Летам, здаецца, і рана прачынаюся, а птушкі да гэтага часу даўно песню праспявалі, падсілкаваліся і клювікі пачысцілі”…

Мы падышлі да ўчастка высечак догляду. Тут было зроблена ўсё, як пры падрыхтоўцы да семінарскіх заняткаў. Хвораст, драўніна, жэрдкі ўкладзены ў абмежаваныя калкамі лаўжы. Аглядваючы ўсё гэта, я спытаў Антона Мікітавіча чаму ён з розных прафесій аддаў перавагу лесу. “З дзяцінства, -- адказаў ён, -- маё жыццё было звязана з прыродай, яе казачнай прыгажосцю, лесам. У сям’і была завядзёнка ў нядзелю працаваць грэх і мы з торбамі за плячыма адпраўляліся ўлес. Бацькі самі нас вучылі ахоўваць прыроду, берагчы яе багацці.

Ніколі не рвалі кветак, а толькі любаваліся імі. Бацька неаднойчы гаварыў: “Паглядзі, панюхай, але не рві. Тады і іншы чалавек можа палюбавацца гэтым цудам”. Мне хацелася мець нейкія дзяржаўныя правы, каб спыніць парушальнікаў.

Словы яго пацвярджаліся на кожным кроку. Толькі ў яго абыходзе расла сон-трава. Уздоўж лясной дарогі – стогадовыя сосны. Адну з іх Шкрадкоў ласкава пакратаў, прыклаў шчаку да ствала. Такі рытуал мне давялося бачыць упершыню. Аказалася, Антон Мікітавіч карыстаўся ім пры першай магчымасці, здымаючы стомленасць, узбагачаючы сябе духоўна, калі энергія дрэва зліваецца з энергіяй чалавека.

Не выпадкова у народзе кажуць: лес не школа, а ўсяму навучыць. “Добра таго вучыць,-- падумаў я,-- хто здольны вучыцца”. Так было і пры пасадцы дуба. “Антон Мікітавіч, -- звяртаюся да лесніка. – Вы, напэўна, кожнае дрэва ў твар ведаеце?” “А як жа інакш, -- адказвае, -- лес плача, калі ляснік у ім рэдка бывае”.

Мы падышлі да рознаўзроставага маладняку дуба, дзе раслі і іншыя пароды дрэў. Толькі пяць гадоў, як закончылася распрацоўка лесасекі з захаваннем падросту, а ўжо слядоў высечак не бачна.

Мне было прыемна глядзець на велічны лес, дубы-насеннікі ў зялёнай “броні” і думаць: як добра, што чалавек пакідае пасля сябе след у памяці.

Заклік

Рэдактар М.Малахаў

Інфармацыйна-аналітычны веснік г.Касцюковічы

Наклад 250 ас.

Нумар падрыхтаваны па матэрыялах прэсы.